# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай аднаго нумару газэты каштуе дадаткова:** у ЗША і Канаду — 40 фэнігаў (10 ам. цэнт.); у Аргентыну — 70 фэн. (17 ам. ц.); у Аўстралію — 90 фэн. (22 ам. ц.). Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

**Банковае конто:** Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 39 (373) — Нядзеля, 29 верасьня 1957 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 11


# Хрушчоў „выконвае“ свае абяцаньні

Чэрвеньскі пленум ЦК КПСС, што асудзіў апазыцыйную групу Молатава-Кагановіча-Маленкова ды выбраў новы Прэзыдыюм ЦК, у сваёй пастанове падаў і новыя асновы сваёй палітыкі. Яны заключаліся — «... у настойлівым правядзеньні палітыкі мірнага суіснаваньня, змаганьні за дружбу між народамі ... у палепшаньні кіраўніцтва прамысловасьцяй, у змаганьні за ўсебаковы ўздым сельскае гаспадаркі, за багацьце прадуктаў, за шырокае жыльлёвае будаўніцтва, за пашырэньне правоў саюзных рэспублік, за росквіт нацыянальных культураў, за ўсемагчымае разьвіцьцё ініцыятывы народных масаў». («Правда» 4. 7. 57).

Гэтыя абяцаньні былі пазьней канкрэтызаваныя ў шматлікіх выступах Хрушчова й іншых сяброў новага Прэзыдыюму ЦК КПСС. Сэнс усіх гэтых дэклярацыяў зводзіўся ў вагульным да наступнага: паслабленьня міжнароднай напружанасьці ў вонкавай палітыцы, палепшаньня матар'яльнага палажэньня працоўных ды пашырэньня свабодаў у нутранай палітыцы.

Цяпер, пасьля трох месяцаў пасьля чэрвеньскага пленуму ЦК КПСС, цяжка яшчэ падсумоўваць вынікі новай хрушчоўскай палітыкі, але ўсё-ж паасобныя элемэнты таго новага, што абяцаў Хрушчоў, можна было-б ужо зарэгістраваць.

Што-ж новага адбылося за гэты час ў СССР?

Адказ на гэтае пытаньне перадусім у вонкавай палітыцы хрушчоўскага кіраўніцтва КПСС. Гэта вонкавая палітыка Хрушчова зарысавалася яшчэ да чэрвеньскага пленуму ЦК КПСС і яна была фактычна аднэй з галоўных прычынаў (калі не самай галоўнай) разрыву Хрушчова з Молатавам. Ужо гады два таму Хрушчоў адмовіўся ад той палітыкі імклівай ваенна-палітычнай экспансіі на вонкавы сьвет, якая праводзілася Молатавам. Няўдачы гэтай палітыкі ў Іране (1951—53 гг.), дзе лёгка заваяваны палітычны ўплыў СССР быў зьмецены пераваротам супраць ураду Мосадэка, таму што разрыў гэтага ўраду з Захадам прывёў да эканамічнага крызісу, амаль такія-ж няўдачы ў Эгіпце пасьля суэскага канфлікту, поўны правал экспансіі на Заходнюю Эўропу, — усё гэта прывяло да замены палітыкі імклівага палітычнага пранікаваньня ў адсталыя краі палітыкай пранікаваньня эканамічнага.

Толькі нэўтральным краём СССР адпусьціў за апошнія два гады больш за 780,8 міліёнаў даляраў у форме пазыкаў і розных «дапамогаў». Адной Сырыі толькі ваенная дапамога даведзена цяпер да 240 міліёнаў даляраў, а апрача гэтага была нядаўна абяцаная эканамічная дапамога ў памеры 140 міліёнаў даляраў. Гэты імклівы экспарт капіталаў із СССР для палітычных мэтаў, а таксама забясьпечваньне зброяй некаторых арабскіх краёў зусім ня супадае з абяцаньнямі зьмягчэньня міжнародных дачыненьняў, дэкляраваных у пастанове чэрвеньскага пленуму ЦК КПСС і ў шматлікіх выступах Хрушчова.

Такая вонкавая палітыка, паранейшаму агрэсыўная й імпэрыялістычная, розьніцца ад сталінска-молатаўскай толькі тым, што яна каштуе народам СССР значна даражэй. Усе-ж цяжары замежных інвэстыцыяў Хрушчова павінна пакрываць жыхарства СССР, якое й бяз гэтага знаходзіцца ў гаротным стане.

Такім чынам, зусім ясна, што нутраныя цяжкасьці ў СССР цесна зьвязаныя з вывазам капіталаў за межы, а таксама з агромнымі даставамі ўзбраеньня для вышэйуспомненых краёў. Адгэтуль ня цяжка зразумець і зыгзакі ў палітыцы хрушчоўскага кіраўніцтва на ідэялягічным фроньце, у нацыянальнай палітыцы, у справе «разьвіцьця ініцыятывы народных масаў» і г. д. Хрушчоў ідзе на ўступкі толькі там, дзе нічога больш не застаецца зрабіць. Так было з дэцэнтралізацыяй кіраўніцтва прамысловасьцяй. Так выглядае справа зь некаторымі ўступкамі ў нацыянальных рэспубліках (збольшаньне тыражоў выданьняў на нацыянальных мовах і пад.). Імкненьне Хрушчова здабыць сабе саюзьнікаў сярод нацыянальнасьцяў, а таксама немагчымасьць захаваньня далейшай цэнтралізацыі сталінскага тыпу, прадыктавалі пэўную гібкасьць на гэтых адрэзках палітыкі. Аднак там, дзе можна абыйсьціся бязь гібкасьці й дзе тымбольш уступкі аказаліся небясьпечнымі, там гібкасьць адкідаецца, там ізноў стукае па сталe грозны кулак партыі, там наглядаецца навет просты паварот да сталінскіх мэтадаў кіраўніцтва. Так здарылася, прыкладам, з партыйнай палітыкай на літаратурным фроньце. Надрукаваны нядаўна ў «Правде» артыкул Хрушчова «За цесную сувязь літаратуры й мастацтва з жыцьцём народу» — гэта яскравы прыклад.

У гэтым артыкуле Хрушчоў ня толькі асудзіў усё тое новае, што было створана ў савецкай літаратуры пасьля сьмерці Сталіна, але й патрабаваў ад савецкіх пісьменьнікаў пісаць творы паводля дадзенага ім, Хрушчовам, рэцэпту. «Мы наважана й няпрымірна выступалі й будзем выступаць, — піша ён, — супраць аднабаковага. нядобрасумленнага. неправўдзівага насьвятленьня нашай заправўднасьці ў літаратуры й мастацтве. Мы супраць тых, хто вышукоўвае ў жыцьці толькі адмоўныя факты й зларадніча з гэтае прычыны, стараючыся зганіць, ачарніць нашы савецкія парадкі» («Правда», 28. 8. 57).

Хрушчоў назваў раман Дудзінцава «Ня хлебам адзіным» паклёпніцкім творам і, такім чынам, забараніў бічаваць недахопы савецкай рэальнасьці мастацкімі прыёмамі (гіпэрбалізацыя й г. д.).

Праўда, Хрушчоў асуджвае й «тых, хто стварае сусальныя, падсалоджаныя вобразы ... і такія саладкаватыя, прытарныя фільмы, як «Незабыўны 1919» або «Кубанскія казакі». Але ў умовах забароны свабоды крытыкі, гэта не дапаможа. Гэта сьветчыць толькі аб тым, наколькі зьяўляецца грубым і някультурным партыйны апарат, ачольваны Хрушчовам зь яго паліцыйнымі мэтадамі кіраўніцтва мастацкай творчасьцяй.

Выступ Хрушчова ў пытаньнях літаратуры й мастацтва — гэта яскравы прыклад стылю хрушчоўскай палітыкі, што заключаецца ў супраціве да ўсяго таго новага, што непазьбежна народжваецца й разьвіваецца.

# Прыстасаванцы

З нагоды апублікаваньня хрушчоўскага «пасланьня» да пісьменьнікаў, кампазытараў, маляроў і г. д. пад назовам «За цесную сувязь літаратуры й мастацтва з жыцьцём народу», на бачынах газэты «Літаратура і мастацтва» за 4 верасьня г. г. побач з пахвальнай перадавіцай партыйнаму «генію» й «настаўніку» зьявіліся таксама водгукі-прырачэньні кампазытара Р. Пукста, пісьменьніка Піліпа Пестрака, артыстага С. Бірылы й маладога літаратара Дзімітры Кавалёва. Усе яны, калі ня стылем, дык аднолькавыя характарам, называючы «пасланьне» Хрушчова «важнейшым партыйным дакумантам па пытаньнях далейшага разьвіцьця савецкай літаратуры й мастацтва» ды прызываючы ўсіх пісьменьнікаў і наагул усе творча-культурныя сілы крочыць за ўказаньнямі Хрушчова. Ведама, не абыйшлося таксама без дакораў на тых, хто «зажадаў свабоды творства», адмаўляў партыйнае кіраўніцтва ў літаратуры й мастацтве, заняўся крытычным рэалізмам, а не сацыялістычным. Адным словам Хрушчоў зачараваў так, як зачароўваў іх у свой час Сталін, потым XX зьезд КПСС з сваімі «лібэральнымі» пастановамі ды нарэшце Шэпілаў, які незадоўга аказаўся ў «антыпартыйным» лягеры. Што-ж становіць

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# За мінулы тыдзень

**(пс)** 12-я сэсія Генэральнай Асамблеі АЗН пачалася пад знакам узможанай сьцюдзёнай вайны. Ужо толькі той факт, што на гэтую сэсію патурбаваліся і Далес і Грамыка, сьветчыць аб вазе, якую да гэтага прывязваюць абедзьве вялікія дзяржавы. Як да гэтага часу, розыгрыш паміж Далесам і Грамыкам можна аблічаць як 1:0, але гэта яшчэ не канчальная дыстанцыя. Далес перасьцерагаў Савецкі Саюз перад вялізарнай адказнасьцяй, калі ён дэфінітыўна адкіне заходнія прапановы адносна раззбраеньня. Із свайго боку Грамыка не шкадаваў Амэрыцы пагрозаў, што, калі яна будзе зашмат цікавіцца Блізкім Усходам — гэта ўсяму сьвету можа ня выйсьці на здароўе.

Адным словам, адзін другому намахаў кулакамі.

Усё-ж у гэты мамэнт можам запісаць на перавагу Амэрыкі тое, што Генэральная Асамблея вялізарнай бальшынёй галасоў пастанавіла ўлучыць на парадак дня і гэтай сэсіі вугорскае пытаньне, ня гледзячы на яры супраціў дэлегатаў камуністычнага блёку.

Аднак, паўтараем, гэта яшчэ не апошняя рунда і неспадзеўкі ня выключаныя.

✳

У Лёндане закончылася яшчэ адна невясёлая камэдыя — Міжпарлямэнцкая Вунія. Як ужо сьветчыць самы назоў, у гэтай імпрэзе звуніяціліся розныя парлямэнты. Аднак «гладко вышло на бумаге». Бо што там маюць да чыненьня прадстаўнікі Вярхоўнага Савету СССР і прадстаўнікі нейкага згуртаваньня нейкіх псэўда-паслоў Вугоршчыны?

Мы ўжо не гаворым аб прадстаўнікох Польшчы, бо там намагаюцца захаваць хоць нейкі эрзац паблямэнтарызму.

Вось-жа прадстаўнікі ангельскага і іншых, запраўды дэмакратычных парлямэнтаў, гаварылі як роўным з савецкімі і вугорскімі мар'янэткамі. Мала гэтага — яны мусілі праслухаць некалькі лекцыяў аб праўдзівай дэмакратычнасьці, выяўленьнем якой зьяўляюцца падкамуністычныя «парлямэнты».

Запраўды данс-макабра!..

Vult est mundus decipi — ergo decipiatur...

✳

Літл Рок — малая скала, аднак вялікія няпрыемнасьці. Паступкі амэрыканскіх расістых выкарыстала ня толькі савецкая прапаганда, але і бальшавіцкія дыпляматы не абняхаялі нагоды зарабіць на гэтай, ня так ужо вялікай авантуры. У патэнтаванай гаварыльні — Палацы Нацыяў, якраз паводля маскоўскага графіку, аб гэтым гаварыў г. зв. «дэлегат» Беларусі. Ён — рэч зразумелая — не гаварыў, што беларускі народ ужо амаль сорак гадоў церпіць маскоўскую дыскрымінацыю, што бальшавікі нятолькі паняволілі Беларускую Рэспубліку, але і зьнішчылі беларускую інтэлігенцыю, што Беларусь знаходзіцца пад акупацыяй замежнай дзяржавы, што Беларусаў расьсяляюць па ўсіх закутках Савецкага Саюзу — ён гаравыў аб дыскрымінацыі нэграў у штаце Арканзас.

Няма сумлеву, што авантуры ў Літл Рок — зьявішча сумнае і жалюгоднае і хіба ніхто ня будзе апраўдываць разгулу нацыстых. Тымбольш, што яны выступілі супраць найвышэйшых інстанцыяў Задзіночаных Штатаў — прэзыдэнта і фэдэральнага суду.

Таксама — рэч зразумелая — што ў Савецкім Саюзе такое зьявішча мела-б зусім іншы фінал: некалькі дзесяткаў людзей схапіла-б па куску волава ў патыліцу, а некалькі тысяч паехала-б даіць белых мядзьведзяў, г. зн. туды, куды чорт раз у год на лыжах можа даехаць. А тут дэмакратыя. А у Амэрыцы пачнецца некалькімесячная валынка, пакуль нейкага Фаўбуса можна будзе «пацягнуць за адказнасьць».

З апошніх вестак мы даведваемся, што прэзыдэнт Айзэнгаўэр апублікаваў зварот да жыхароў гораду Літл Рок, у якім заклікае падпарадкавацца пастановам фэдэральнага суду. У звароце сказана, што калі жыхары Літл Рок не падпарадкаваюцца пастановам фэдэральнага суду, а забурэньні будуць прадаўжацца, для ўстанаўленьня парадку ў горадзе будуць пасланыя часткі фэдэральнага войска. Як бачым, прэзыдэнт сказаў сваё моцнае слова.

Калі мінулай восеняй дваццаць савецкіх дывізіяў залівалі крывёй Вугоршчыну — гэта была «братэрская дапамога вугорскаму народу». Калі Арганізацыя Задзіночаных Нацыяў прабавала разглядаць гэтыя жудасныя злачынствы — было «грубае ўмешваньне ў нутраныя справы Вугоршчыны». Але падскокі бальшавіцкіх гора-дыпляматаў у справе лякальных сьвінстваў у штаце Арканзас — «абарона пралетар'яту перад капіталістычным прыгнётам».

Што-ж — маскоўская дыялектыка на маркса-ленінскай аліве. Або скрыжаваньне сабакі з самакатам...

Толькі як доўга можна гэта талераваць?..

# Аб „руплівасьці нэафітаў“

У шырокай дыскусіі на тэму г. зв. распакоўваньня, ведзенай свайго часу на бачынах «Бацькаўшчыны», бальшыня тых, якія забіралі ў ёй голас, выказалі думку, што фактычна прыйманьне грамадзянства тых дзяржаваў, дзе знайшла гасьцінны прытулак нашая эміграцыя — гэта ніякая зрада з нацыянальнага гледзішча. Наадварот, былі зусім абгрунтаваныя выказваньні, што, будучы раўнапраўным грамадзянінам тае ці іншае дзяржавы, наш эмігрант можа зрабіць куды больш для беларускае справы, чымся будучы звычайным безьдзяржаўным чужынцам.

Бясcумлеўна, быць добрым, чэсным і ляяльным грамадзянінам якой-небудзь свабоднай, дэмакратычнай дзяржавы, зусім не стаіць на перашкодзе да таго, каб застацца добрым і дзейным Беларусам. І трэба з прыемнасьцяй адцеміць той пазытыўны для нас факт, што бальшыня нашага найбольш актыўнага элемэнту, стаўшыня грамадзянамі Амэрыкі ці Канады, зусім ня перастала быць тым, чым была — беларускімі патрыётамі. Да іхнай беларускасьці ня маюць засьцярогаў тыя краі, грамадзянамі якіх яны сталіся. Наадварот — маюць да іх пашану за іхны ідэялізм, актыўнасьць і адданасьць беларускай справе.

Але калі мы можам цешыцца гэтым зьявішчам, дык гэта ня значыць, што ў нас на гэтым адрэзку ўсё ідэяльна, усё ў парадку на сто працэнтаў. Няма роду бяз выраду — кажуць людзі. Так яно і ў нас.

Нэафітызм — зьявішча наагул старое як сьвет. А ўжо прыказкавая «руплівасьць нэафіты» набыла такога адмоўнага значаньня, што яна для чэснага чалавека мае той самы пагардлівы адцень, што і «Юдавы сярэбранікі». «Большы каталік за Папу Рымскага», ці «большы хрысьціянін за Хрыста» — звычайныя й лягічныя азначэньні нэафіты — ніколі ў нас не спалучаліся з паняцьцямі чалавека чэснага й справядлівага. І ня выглядае, каб інакш думалі, прыкладам, Амэрыканцы, калі бачаць Беларуса ў ролі большага Амэрыканца, чымся стопрацэнтны «янкі». А што сярод нашае эміграцыі такія ёсьць — гэта бясспрэчны факт. Няглыбокія розумам, а яшчэ менш шляхотныя душой і сэрцам, праіснаваўшы некалькі гадоў у розных лягерах зь мянушкай «Ды-Пі» ды вырваўшыся нарэшце на «амэрыканскія воды», дзе ўсё захапляе і ўсё пацягвае, людзі гэтае натуры, нярэдка саромячыся свайго беларускага паходжаньня, адкідаюць усё, што іх вяжа з гэтым паходжаньнем ды амэрыканскім тэмпам імкнуцца, каб як найхутчэй, хаця навонкі, паказаць сваю поўную амэрыканскасьць.

Ды мала-ж навонкі: каб быць ў парадку перад самым сабой, такі «амэрыканец» пачынае на свой лад штучна амэрыканізаваць сваю душу. І ў суме атрымоўваецца ... жалюгодная карыкатура! А падыскутуйце з такой карыкатурай. Ня толькі Беларусь, краіна якая яго выкарміла, выклікае ў яго пагарду ці абыякавасьць, але наагул усё, што паза Амэрыкай — гэта дрэнь, нічога ня вартае..., «У нас, Амэрыканцаў...» і то з такой мінай, быццам-бы ён быў суаўтарам амэрыканскае канстытуцыі ці вэтэранам з вайны за незалежнасьць Амэрыкі. Гэта дрэнныя й шкодныя «амбасадары» Амэрыкі! (Аб іхным «амбасадарстве» беларускім і гаварыць не даводзіцца).

Нярэдка даводзіцца гутарыць з Амэрыканцамі. Можна дыскутаваць на самыя розныя тэмы, можна закранаць дражлівага характару палітычныя праблемы, але дыскусія застаецца на ўзроўні, бо ў ігру ўваходзяць толькі факты й аргуманты а не падхалімская «руплівасьць нэафіты».

Пры гэтым трэба адцеміць, што бальшыня краёў, дзе пасяліліся нашы эмігранты, даючы сваё грамадзянства вымагаюць толькі **ляяльнасьці.** Падхалімства нашых нэафітаў зусім не ляжыць у інтарэсе гэтых дзяржаваў.

Цікава на гэтым фоне прывесьці такі факт: Зь ініцыятывы Айзэнгаўэра ў Амэрыцы паўстала арганізацыя «People-to-People—Program» (Праграма — Людзі да Людзей), пры якой знаходзіцца Камітэт Нацыянальнасьцяў. Сябрам Камітэту зьяўляецца сам прэзыдэнт ЗША. У Мэмарандуме Камітэту Нацыянальнасьцяў выпрацавана восем пунктаў праграмы, якая мае праводзіцца ў жыцьцё. Пункт шосты мэмарандуму ў дачыненьні да эмігрантаў фактычна зводзіцца да таго, каб яны папулярызавалі сярод амэрыканскага грамадзтва веды аб краёх свайго паходжаньня, каб дзяцей сваіх навучалі роднай мовы й гісторыі сваіх народаў, бо толькі гэткім чынам яны найбольш змогуць прынесьці карысьці Амэрыцы ў ейным імкненьні да справядлівага міру, абапёртага на ўзаемнай пашане й зразуменьні ўсіх людзей сьвету.

Ня менш вымоўна й тое, што здарылалася ў гэтым годзе ў Канадзе. Яшчэ ў ліпені сёлета польская газэта «Амэрыка-Эхо» пісала наступнае: «На сходзе рэдактараў рознамоўнае прэсы «Ethnic Press» у Таронта, Джон Дыфэнбэкэр вой-стра асудзіў тых людзей, што саромяцца сваіх собскіх прозьвішчаў: «... Я лепш паважаю тых людзей, якія не зьмянілі сваіх прозьвішчаў, чымся тых, што гэта зрабілі, судзячы што праз гэта яны сталіся нечым, чым фактычна ня ёсьць». Падобнае становішча што да зьмены сваіх родавых прозьвішчаў заняў нядаўна прэм'ер правінцыі Квібэк Дуплесіс, адкідаючы заяву Паляка на зьмену прозьвішча польскага на прозьвішча чужое. Прэм'ер Дуплесіс асьветчыў, што, польскае прозьвішча ў Канадзе ня горшае ад прозьвішча французскага ці ангельскага».

Як бачым, гэтыя дзяржавы ня толькі не зацікаўленыя ў спрыяньні й пашыраньні «руплівасьці нэафітаў» сярод эмігрантаў, але наадварот, поўнасьцяй здаюць сабе справу, што гэта ня прынясе ім карысьці. І зусім лягічна: калі «Х» ці «У» учора быў Палякам ці Беларусам, а сяньня, маючы нагоду, імкнецца як найхутчэй стацца Канадыйцам ці Амэрыканцам, і то такім, каб і сьледу не засталося ягонае папярэдняе прыналеж-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# Із залі паседжаньняў Задзіночаных Нацыяў

(Заканчэньне, гл. № 38 (372)

**(Ад собскага карэспандэнта зь Нью Ёрку)**

12 верасьня да абедзеннага перапынку выступалі дэлегаты Кубы, Костарыкі й Гішпаніі.

Дэлегат Кубы, гаворачы аб народным характары паўстаньня, папытаўся, чаму ні савецкі, ні вугорскі дэлегаты не гавораць, дзе была вугорская армія ў часе паўстаньня. Гэта-ж вугорская армія павінна была выступаць супраць контррэвалюцыі, калі такая мела месца ў Вугоршчыне. **«Пашто было запрашаць савецкую армію?»** — запытаўся прадстаўнік Кубы. Далей ён адцеміў: **«Моладзь, жанчыны, студэнты і прафэсары якраз і былі тыя, што паўсталі ў Вугоршчыне, дамагаючыся свабоды для свайго народу і пратэстуючы супраць савецкае тыраніі».**

Прадстаўнікі Костарыкі й Гішпаніі пацьвердзілі аб'ектыўную вартасьць рапарту Камісіі ЗН, пацьвердзілі нацыянальны й масавы характар вугорскага паўстаньня ды заявілі, што яны будуць галасаваць за рэзалюцыю, якая асуджае савецкую збройную інтэрвэнцыю ў Вугоршчыне.

На пасьляабедзенным паседжаньні прамаўлялі дэлегаты Гватэмалі, Сальвадару, Чэхаславаччыны, Пакістану, Бірмы, Канады, Францыі й Вугоршчыны.

Дэлегат Гватэмалі заявіў, што цяперашні рэжым у Вугоршчыне прытрымоўваецца пры жыцьці савецкай дзяржавай. Рапарт Камісіі пяцёх аб вугорскім паўстаньні прадстаўнік Гватэмалі ўважае за **«манумэнтальны гістарычны дакумант глыбокага маральнага й палітычнага значэньня».** Дэлегат Гватэмалі прапануе Задзіночаным Нацыям зьвярнуцца з заклікам да Савецкага Саюзу спыніць рэпрэсіўныя меры ў Вугоршчыне.

Прадстаўнік Сальвадару таксама абвінаваціў Маскву за ўмешваньне ў нутраныя справы Вугоршчыны. Ён заявіў, што дагадненьне, паводля якога Савецкі Саюз атрымаў права трымаць свае збройныя сілы ў Вугоршчыне, было палітычнай памылкай. Варшаўскі пакт ніякім чынам не апраўдвае савецкай інтэрвэнцыі. **Вугорскі народ ахвяра агрэсіі з боку вялікае дзяржавы»** — закончыў ён.

Дэлегат Чэхаславаччыны заявіў: **«Ні Генэральная Асамблея, ні ніякая іншая арганізацыя Задзіночаных Нацыяў не кампэтэнтныя ў справе вугорскага пытаньня, якое мае чыста нутраны характар.»** Міжнародную Камісію Задзіночаных Нацыяў, якая падала на Генэральнай Асамблеі дакумэнтальны рапарт аб вугорскай рэвалюцыі прадстаўнік Чэхаславаччыны абвінаваціў у тым, што яна была створаная пад ціскам Задзіночаных Штатаў Амэрыкі. Рапарт Камісіі — на ягоную думку — гэта ананімны паклёп, вытрыманы ў духу амэрыканскае прапаганды. Ён заявіў таксама, што вугорскі ўрад, зьвяртаючыся да Савецкага Саюзу з просьбаю дапамогі, выканаў адзін з пунктаў мірнае ўмовы. Тое самае зрабіў і Савецкі Саюз, даючы гэтую дапамогу. Чэхаславацкі прадстаўнік дадаў, што калі-б, як ён сказаў, контррэвалюцыя перамагла ў Вугоршчыне, дык гэта магло-б выклікаць трэйцюю сьветавую вайну.

Дэлегат Пакістану сказаў, што паўстаньне ў Вугоршчыне было агульнанародным рухам за свабоду, што гэтая падзея мае міжнародны характар, што вугорскае паўстаньне ўсё яшчэ не разьвязанае ды што вугорскаму народу трэба дапамагчы самому вызначыць сваю будучыню. Ён падтрымаў прапанову ангельскага дэлегата выбраць прадстаўніка Тайлянду Вайта Якона на адмысловага прадстаўніка ЗН для перамоваў з Савецкім Саюзам у справе абароны сувэрэнных правоў вугорскага народу.

Прадстаўнік Бірмы заявіў наступнае: **«Мы застаёмся перакананыя, што тое, што здарылася ў Вугоршчыне, было ў груньце спантанічным нацыянальным паўстаньнем. Мы таксама трымаемся пагляду, што гэты нацыянальны ўздым быў здушаны збройнай сілай Савецкага Саюзу ды што накінуты Вугоршчыне рэжым ня быў выбраны самым народам. Мой урад уважае, што вугорскі народ мае прыроднае права сам разьвязваць сваю будучыню бязь ніякага ўмешваньня збоку».**

Дэлегат Канады прыгадаў, што толькі ў ваднэй Канадзе знаходзіцца больш за 35.000 вугорскіх уцекачоў. Уцекачы гэтыя, — сказаў ён — прынесьлі з сабой гэткія дадзеныя, якія цяпер сабраныя і Камісіяй ЗН. Вугорскае паўстаньне было **«стыхійным нацыянальным рухам, накіраваным на здабыцьцё незалежнасьці».**

Прадстаўнік Францыі заявіў, што рапарт Камісіі пяцёх — гэта аўтэнтычны й аб'ектыўны дакумант. Пасьля аналізу адпаведных пунктаў Варшаўскага пакту, які ніякім чынам не апраўдвае савецкай інтэрвэнцыі ў Вугоршчыне, дэлегат Францыі дадаў, што ўсе атрымоўваныя дагэтуль весткі з Вугоршчыны даводзяць, што кадараўскі рэжым не датрымаў дадзеных народу абяцаньняў.

Потым папрасіў слова дэлегат Вугоршчыны. Ён адказаў на цьверджаньне прадстаўніка Кубы, у якім гэты апошні назваў вугорскага дэлегата Расейцам і савецкім грамадзянінэм. Ён стараўся катэгарычна запярэчыць гэтаму цьверджаньню.

На ранішнім паседжаньні 13 верасьня прамаўлялі прадстаўнікі Вэнэцуэлі, Эквадару, Уругваю, Індыі, Югаславіі, Нарвэгіі і нацыянальнага Кітая.

Дэлегат Вэнэцуэлі высока ацаніў гэраічнасьць вугорскага народу ў змаганьні за свой нацыянальны лёс. У гэтым-жа духу прамаўлялі прадстаўнікі Эквадару і Уругваю, прызнаючы аб'ектыўную вартасьць запрапанаванаму Генэральнай Асамблеі рапарту аб вугорскай рэвалюцыі. Гаворачы аб вялікай колькасьці вугорскіх уцекачоў на Захадзе, дэлегат Уругваю запытаўся ў удзельнікаў асамблеі: **«Але-ж ці можам мы ўважаць за зраднікаў і крыміналістых 20.000, не, 30.000, не, 50.000 — 150.000 Вугорцаў, якія перайшлі граніцу, каб выратаваць сваё жыцьцё і гонар сваіх сыноў?»**

Прадстаўнік Індыі заняў новае становішча ў дыскусіі над вугорскай праблемай. Ён сказаў, што асуджэньне Савецкага Саюзу прынесла-б непатрэбныя камплікацыі. Аднак ён заўважыў, што гэта не абазначае, што Індыя апраўдвае агрэсію Савецкага Саюзу ў Вугоршчыне. Ён дадаў таксама, што **«мы забавязаныя падтрымоўваць палітыку нацыянальнае свабоды, каб забясьпечыць поўны сувэрэнітэт дзяржаваў — сяброў ЗН».**

Югаслаўскі дэлегат у сваім кароткім выступленьні прабаваў таксама заняць самастойнае становішча што да вугорскага пытаньня, выказваючы сумлеў у аб'ектыўнай вартасьці рапарту Камісіі пяцёх. Ён сказаў, што такі падыход да справы не дапаможа вугорскаму народу ў ягоных цяжкасьцях. **«Трэба пачынаць шырокую эвалюцыю ў кірунку палепшаньня міжнароднага становішча»,** — заявіў ён.

Дэлегат Нарвэгіі катэгарычна падтрымаў рэзалюцыю і заявіў: **«Мы хочам ня толькі міру, але міру із справядлівасьцяй».**

Пасьля абеду першым узяў слова дэлегат Кубы і зрабіў спраставаньне. Аказваецца, ён пераблытаў прозьвішча ранейшага вугорскага дэлегата зь цяперашнім, прыпісваючы цяперашняму савецкае грамадзянства, што ў запраўднасьці датычыла ягонага папярэдніка.

Пасьля яго ўзяў слова дэлегат Чылі, паддзержываючы рэзалюцыю ды заяўляючы: **«Царства тэрору ў Вугоршчыне працягваецца і ўзмацняецца».**

Дэлегат Вугоршчыны яшчэ раз папрасіў слова і ў доўгім, бадай двухгадзінным пералічэньні фактаў ізнсў даводзіў антынародны й контррэвалюцыйны характар вугорскага паўстаньня ды прыводзіў афіцыйныя дадзеныя ў довад адноўленага пасьля забурэньняў дабрабыту вугорскага народу.

Затым слова ўзяў дэлегат Украінскае Савецкае Рэспублікі. Ён заявіў пратэст супраць абмяркоўваньня вугорскае праблемы ў ЗН. Ён запярэчыў, між іншага, распаўсюджваным у свой час чуткам, што быццам падчас дэпартацыі Вугорцаў у Савецкі Саюз у канцы 1956 году ў Кіяве адбываліся студэнцкія дэманстрацыі пратэсту.

Дэлегаты Дамініканскай Рэспублікі й Партугаліі выказалі сваю салідарнасьць з вугорскім народам, далі высокую ацэну рапарту Камісіі пяцёх і падтрымалі рэзалюцыю, што асуджае Савецкі Саюз за праліцьцё крыві ў Вугоршчыне.

Пасьля перапынку ўзяў слова дэлегат Беларускай ССР Гурыновіч, які заявіў: **«Дэлегацыя Беларускай ССР прылучаецца да думкі тых дэлегатаў, якія заявілі аб недапушчальнасьці й незаконнасьці абмяркоўваньня ў ЗН гэтак званага «вугорскага пытаньня».**

Далей прадстаўнік Ганы заявіў: **«Я хацеў-бы толькі сказаць, што, на думку мае дэлегацыі, Асамблея ня выканае свайго заданьня, калі яна ня прыйме рапарту й рэзалюцыі, якія ляжаць цяпер перад намі».**

Пасьля прыняцьця рэзалюцыі Генэральная Асамблея ўпаўнамочыла прадстаўніка Тайлянду весьці ў будучыні ад імя Задзіночаных Нацыяў перамовы з Савецкім Саюзам у справе Вугоршчыны.

На гэтым надзвычайная сэсія Задзіночаных Нацыяў, прысьвечаная вугорскаму пытаньню, закончылася.

**А. Б.**

## Аб „руплівасьці нэафітаў"

**(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)**

насьці, дык якая зарука, што заўтра пры якой-небудзь іншай нагодзе ён ня будзе ў такі-ж самы спосаб заціраць сьляды свае канадыйскасьці ці амэрыканскасьці ды дапасоўваць сабе новую апраніху. Мы, Беларусы, выходзячы з нашага палажэньня ў мінулым, мелі найбольш магчымасьцяў пазнаць гэтую катэгорыю людзей. Яны для кажнага верныя й адданыя ў той час, чыё імя носяць, і калі гэтае імя ім у дадзены час выгаднае. Толькі тады.

З гэтым агідным зьявішчам, хоць мо, дзякаваць Богу, і ня так шырока распаўсюджаным у нашых радох трэба, весьці наважанае змаганьне, хоць, з другога боку, гэтае змаганьне так цяжкае, як цяжка хвальшывую душу вывесьці на здаровы шлях. А Амэрыканцаў перасьцерагаем: сьцеражэцеся «амэрыканцаў» большых за вас!

**А. Галубіцкі**

# Гэраізм і «гэраізм»

**«Гэраізм — гэта рыса маладосьці»,** — пад гэтакім назовам надрукаваў у «Чырвонай зьмене« свой невялікі артыкул Раман Сабаленка. Назоў не благі, але сьвежасьці няма ў ім ніякай: сутнасьць ягонага зьместу ня толькі ператоптаная, але і даўно скапытаваная савецкаю прэсаю, як тая кірмашовая плошча. І то пад гэтую, старую, зашмульцаваную аднабаковым прапагандовым асьвятленьнем камбінацыю слоў Сабаленка падпіхае савецкую мерку маладосьці і гэраізму...

Мы не адмаўляем гэраізму савецкае моладзі, бо з такога адмаўленьня выпіралася-б, як шыла зь мяшка, такая-ж няпраўда, якая выпіраецца з Сабаленкавага цьверджаньня, што «ні ў вадной капіталістычнай краіне сьвету ня было, няма і ня будзе такіх гэрояў», як той невядомы Раману Сабаленку хлапчук, у якога «на грудзях пад прасоленай салдацкай гімнасьцёркай была прастрэлена кніжка Нікалая Астроўскага «Як гартавалася сталь»... і з таго, што «... жлобінскія падпольшчыкі, юныя мсьціўцы зь Віцебшчыны і Сьхідзельшчыны — хіба гэта не праця̆г вобразу Паўкі Карчагіна?»

Наадварот, мы ня толькі прызнаем гэраізм беларускае моладзі й моладзі іншых паняволеных рэжымам бальшавіцкае дыктатуры народаў — мы прызнаем яго ў шмат шырэйшым і глыбейшым, як Сабаленка пляне, прызнаем, сьцьвярджаем і сьхіляем перад ім свае галовы. Справа ў тым, што гэраізм не адзін — ёсьць некалькі **гэраізмаў** і ўсе яны розныя; колькасьць і якасьць гэраізмаў залежыць ад таго, хто, праз якую прызму і зь якога пункту гледжаньня глядзіць на праяву гэраізму.

Раман Сабаленка глядзіць на гэраізм беларускае моладзі праз усечаную прызму і не з свайго, а з бальшавіцкага пункту гледжаньня. Ягоны гэраізм — гэта гэраізм маланкавы, гэраізм мамэнту — таго мамэнту, калі, як кажа аўтар згаданага намі артыкулу, «... вораг (гэта значыць гітлерызм — У. Д.) цэліўся... У думкі й спадзяваньні цэлага народу, цэлых пакаленьняў, каб іх заняволіць фізычна, прынізіць і зьнядбаць духоўна...» і, з другога боку, гэтак званы «пяцігодкавы» гэраізм «узьняты да жыцьця геніяльнымі ленінскімі ідэямі». Найноўшы, апошні Сабаленкаў «гэраізм» — гэта гэраізм прымусу, які палягае ў тым, што «сотні тысяч юнакоў і дзяўчат па закліку роднай камуністычнай партыі пакінулі Маскву й Ленінград, Кіеў і Менск, Рыгу й Вільню, сьвядома адмовіліся ад сталічнага жыцьця й рушылі эшалонамі ў стэпы Казахстану, Алтаю, у Сібір».

Падсалоджваючы гэраізм прымусу, гэта значыць «гэраізм» беларускае моладзі на цаліне, Сабаленка піша: «Вядома, нялёгка даводзіцца нашай гэраічнай моладзі. А хіба першаадкрывальнікам лёгка было? А хіба дзядом і бацьком цяперашніх юнакоў і дзяўчат сорак год таму назад, галодным і поўразьдзетым, лёгка было зваліць расейскі капіталізм, ажыцьцявіць рэвалюцыю, пабудаваць сацыялізм?» Адным словам, трапіў, як пальцам у неба!..

Прычына мешаніны гэраізму беларускае моладзі з карчагінамі ўсім над добра вядомая і мы ніколі не паставім у роўніцу Паўкі Карчагіна ці Паўліка Марозава ні з Сымонам Музыкам, ні з гэраічным перамаганьнем беларускай моладзьдзю трагічнага голаду, холаду й жудасьці сьмерці закатаваных бальшавікамі бацькоў, ні з гэраізмам цярпеньня й вытрываласьці беларускае моладзі ў калгасным ярме, ці з пакутамі цьвету беларускае нацыі ў савецкіх канцлягерах, ні з гэраізмам беларускіх антыкамуністычных партызанаў! Калі-ж гаварыць аб гэраізьме беларускае моладзі ў часы Другой сусьветнае вайны, дык ейны гэраізм, папершае, ніяк нельга тлумачыць гэтак званай «адданасьцяй справе партыі, справе камунізму», як гаворыць Раман Сабаленка; вёў на гэраічныя ўчынкі беларускую моладзь беларускі патрыятызм, сіла традыцыйнага змаганьня з акупантамі, сіла, якая вось ужо сорак гадоў вяла нашую моладзь на змаганьне з бальшавіцкай дыктатурай за нацыянальную незалежнасьць.

Калі-ж гаварыць аб гэраізьме беларускае моладзі на гэтак званых «франтох камуністычнага будаўніцтва», дык і тут справа выглядае зусім інакш. Тлумачыць можна рознымі прычынамі, але нам думаецца, што галоўная прычына ляжыць у чалавечай псыхіцы, у фактары асабістае годнасьці сярод свайго грамадзтва. Хіба-ж ня было гэрояў сярод рабоў Рыму, якія адначасна змагаліся з рабствам?

Калі Павал Катоўскі, які, як кажа «Чырвоная зьмена», працуе «болтарэзам» і «выпускае прадукцыю ў лік будучага году» дык гэта ня значыць, што ён «служыць камунізму» — ён проста хоча апрануць і накарміць сям'ю, адзінку нацыі, якая ўжо сорак гадоў бязьлітасна разьбіваецца камуністычнай дыктатурай.

Гэраізм — гэта рыса маладосьці, і маладосьць — гэта крыніца гэраізму. Ня сьціраецца гэтая рыса й ня высыхае гэтая крыніца і ў ланцугох бальшавіцкае

(Заканчэньне на 3-ай бачыне)

# Творы Максіма Багдановіча 5)

### ПЕРШАЯ ЛЮБОЎ

Ўжо позна. Змрок вясьнянай ночы
На вузкіх вуліцах ляжыць.
А мне — вясёла. Блішчаць вочы,
І кроў ад шчасьця аж кіпіць.

Іду я радасны, харошы,
Зьнікае з сэрца пустата...
А пад гумоваю галёшай
Ціхутка хлюпае слата.

—(✻)—

* * *

Маркотна я чакаю. Для чаго ты
Ня выйдзеш з хаты ў парны поўдзень зноў?
Тады-б, напэўна, выцснулі боты
Па мяккім па асфальце рад сьлядоў.

І я, нявідны для цябе і бледны,
Ня бачачы нічога круг сябе,
Прыпаў-бы к ім... І вось чакаю бедны:
Ці-ж хутка зьявіцца канец журбе?

* * *

Пад ценем цёмных ліп, схаваў што нашу пару,
Мы йдзём праплёванай дарожкай па бульвару;
Акуркі, шалупа, паперкі пад нагамі, —
Ды ці прыкмечу іх, калі іду я з Вамі?
Праз дымчасты крышталь празрыста-цёмнай ночы
Ідучых міма нас людзей зіяюць вочы;
У цемні к нам плывуць рубіны папяросаў,
Ліхтарні блеск адкрыў на ліпе россып росаў...
Ах, колькі ёсьць красы цудоўнай поруч з намі,
Калі глядзець вакол дзіцячымі вачамі!

—(✻)—

### СРЫБНЫЯ ЗЬМЕІ

**(З цыклю «Вадзянік»)**

Срыбнымі рожкамі ймгліцца
Зь цёмных нябёс маладзік;
Возера плешча, бурліцца,
Рушыцца ў ім вадзянік.

Ў хвалях гуляць выпушчае
Зь віру зьмяю за зьмяёй;
Вось іх грамадка ўсплывае,
Срыбнай ірдзіцца лускай.

Будуць яны ўсю ноч віцца,
Ў хвалях хрыбтамі блішчаць;
Будуць сьціскацца, круціцца,
Гэтак да раньня гуляць.

Сьвецячы блескам чырвонца
Праз парадзелую ймглу,
Пусьціць, усходзячы, сонца
Ў іх залатую іглу.

Зьгіне зьмяя за зьмяёю,
Зьнікне зь нябёс маладзік.
Доўга па іх пад вадою
Будзе ўздыхаць вадзянік.

—(✻)—

* * *

**(З цыклю «Лясун»)**

Ліецца па бары шырокі, поўны шум,
Гудзіць паміж гальля старых сасон сувора, —
І ціхне на душы змаганьне хворых дум
Пад гук спакойны, роўны бору.

Там, пэўна, ціха калыхае лясунка,
Сьпяваючы над ім, старая лясуніха,
Пад сьпеў суворы вольна ўзрослага сынка
Абміне дум разьбітых ліха!

Ён зможа ўсё ў бары пазнаць і перажыць, —
І кажны трэск, і стогн, і звонкі птушы сокат;
Душы яго знаёмым, родным мусе быць
І —гук грымот, і траўкі шопат.

Няхай яго дні ў даль бязьмежную сплывуць, —
Ня спудзіць сьмерць таго, хто жыў так цэльна, вольна!

. . . . . . . . . . . . . . .

Ў душы сплясну́ў агонь! Яго заліла муць...
І сэрцу беднаму так больна!

* * *

Разгарайся хутчэй, мой агонь, між імглы, —
Хай цябе шум вятроў ня пужае:
Пагашаюць яны аганёчак малы,
А вялікі — крапчэй разьдзімаюць.
Разгарайся хутчэй, зігаці, аганёк, —
Каб, калі і замёр ты бяз долі,
Ўсіх спужаў-бы страшны, абступіўшы іх, змрок,
Хай агнёў не гасілі-б ніколі.

—(✻)—

### 1912

* * *

Ўсё ў жыцьці мне даўно ўжо абрыдла,
З сэрца зьнікла і назласьць і жаль,
Не падыймуцца больш мае скрыдлы,
Не памкну я ў сінюю даль.
Нудна льлюцца, марудны і шэры,

# Да аграрнае рэформы

У н-ры 30 (364) «Б-ны» (гл. «Да аграрнае рэформы) мы абяцалі вярнуцца да некаторых аспэктаў закранутае праблемы. За гэты час у «Б-не» зьявілася яшчэ колькі артыкулаў на гэтую тэму, што трэба толькі вітаць. Бязумоўна, мае поўную рацыю сп. А. Клімовіч, што газэтнымі артыкуламі нельга разьвязаць так важнага пытаньня будучыні — яно патрабуе глыбокага вывучэньня фаховымі сіламі. Мы-б да гэтага дадалі, што навет і ў такім выпадку ня ўдасца ўлічыць усіх аспэктаў і распрацаваць дакладна ўсе дэталі. Галоўнае — гэта выпрацаваць асноўныя лініі будучае рэформы, пастарацца знайсьці разьвязку праблемы ў прынцыпе, будучы элястычнымі ў дэталях — пакідаючы ў прынцыповых рамках месца на адпаведныя зьмены ці дапаўненьні.

Аднак і газэтныя артыкулы маюць вялікае значэньне. Яны, як мы ўжо казалі раней, узбуджаюць дыскусію, выкрываючы разыходжаньні ў падыходзе да справы, выяўляючы дасюль неасьветленыя аспэкты праблемы, паказваючы на перашкоды, на якія будзе натыкацца плянаваная рэформа. У газэтных артыкулах можна таксама затрымоўвацца й на дэталях рэформы — гэта можа выявіцца карысным у будучыні.

Хацелася-б выказаць пажаданьне, каб у дыскусіі над формамі землекарыстаньня ў незалежнай Беларусі сказалі сваё слова й нашы сяляне, якім гэтае пытаньне найбольш блізкае ды найбольш знаёмае з дасьветчаньня. Хай іх не палохае пяро — ня трэба быць журналістым, каб выказаць сваю думку на балонах газэты ў тэй ці іншай форме — калі ня ў форме артыкулу, дык прынамся ліста. Таму, паважаныя сяляне — чакаем на **Вашы** водклікі!

Але вернемся да самое праблемы, ці, лепш сказаць, да некаторых аспэктаў яе.

Пакінуўшы збоку прынцыповае пытаньне — вёска, хутар ці пасёлак — сваю думку мы ўжо выказалі й абгрунтавалі раней (пасёлак) — зусім незалежна ад прынятага прынцыпу стаіць пытаньне вялічыні зямельных надзелаў. Бадай усе, што забралі голас у дыскусіі, сказалі некалькі слоў у гэтай справе. Сп. Ул. Ш. кажа, што «... хутар павінен быць поўназямельны, г. зн. дастатковы, каб ізь сярэдняй сям'ёй зарабіць сабе й сям'і на хлеб, на паправу гаспадаркі, на неабходныя сельскагаспадарскія машыны». Зусім правільна, калі да гэтага дадаць, што ня толькі сярэдняя, але й вялікая сям'я мусіць магчы поўнасьцяй пакрыць свае партэбы з прыдзеленай ёй зямлі. Сп. Клімовіч уважае, што сярэдні надзел павінен быць 15 гэктараў; за максімум ён уважае 20, за мінімум — 5 гэктараў. Сп. В. Б. ня выказвае беспасярэдня свае думкі што да вялічыні надзелу ў будучыні, але зь ягонага артыкулу вынікае, што ён прыхіляецца да прынцыпу Прышчэпава — ня менш за 5 гэктараў на сям'ю.

Што максімум і мінімум надзелу павінны быць вызначаныя — гэта хіба ня выкліча пярэчаньняў зь ніякага боку. Сярэдняя гаспадарка будзе недзе пасярэдзіне паміж гэтымі двума полюсамі. Але хіба кажны таксама згодзіцца й з тым, што сярэдняя вялічыня надзелу будзе ў першую чаргу залежаць ад канкрэтных дадзеных — ад плошчы, галоўным чынам ворнае зямлі, затым сенажацяў, лесу й г. д. Бяз гэтага нельга прапанаваць такога ці іншага надзелу — вобмацкам тут нічога ня зробіш. Таму ўсім хіба будзе цікава пазнаёміцца з пэўнымі лікамі, атрыманымі намі ад сп. В. Б., які гэтымі пытаньнямі сыстэматычна займаецца.

Ніжэй пададзеныя лікі датычацца толькі тэрытарыяльна абрэзанай Беларусі — БССР. Гэта трэба мець наўвеце, але яны ўсё-ж даюць нам прыблізны вобраз існуючага цяпер палажэньня й на цэлай нашай Бацькаўшчыне.

Вось-жа, у БССР на 20 300 000 гэктараў агульнае плошчы ёсьць цяпер 6 100 000 гэктараў ворнае зямлі; на 100 гэктараў ворнае зямлі прыпадае каля 43 гэктараў сенажацяў, інакш кажучы — у БССР ёсьць цяпер больш за два з палавінай міліёна гэктараў сенажацяў. Акрамя таго, плянуецца яшчэ асушэньне на Палесьсі 2 913 000 гэктараў зямлі, якая пэўна-ж падзеліцца на ворную й сенажаці. Ня маем, нажаль, пад рукою дадзеных аб плошчы лясоў, але гэта ўжо й ня так важна.

Застаецца другі фактар — людзі. Як ведаем, паводля апошніх савецкіх афіцыяльных дадзеных, БССР налічвае цяпер толькі 8 000 000 насельніцтва. Гэта, зразумела, тлумачыцца ня толькі стратамі, спрычыненымі вайной, але й злачыннай палітыкай расейска-бальшавіцкіх акупантаў, якія сьведама й сыстэматычна абязьлюдніваюць нашу краіну, высылаючы лепшы элемэнт, а перадусім моладзь, у пустыры Ўсходу.

Цікава цяпер даведацца, якую частку насельніцтва Беларусі складаюць у наш час сяляне. Паводля савецкіх афіцыяльных крыніцаў, у БССР налічваецца цяпер каля 1 міліёна 200 тысяч прамысловых работнікаў. Калі дапусьцім, што сярэдняя сям'я складаецца з 4 асобаў ды што з кажнае работніцкае сям'і працуюць па 2 асобы ў прамысловасьці, дык прыйдзем да высналу, што каля 4 міліёнаў — каля 50% насельніцтва БССР — зьяўляецца работніцкім! Гэта (з усімі засьцярогамі) — пацьвярджаецца й агульнымі працэнтнымі суадносінамі насельніцтва цэлага СССР, дзе цяпер 52% агульнае колькасьці насельніцтва прыпадае на прамысловых работнікаў і ўрадаўцаў, а 48% — на працаўнікоў сельскай гаспадаркі, інакш кажучы — на сялян. Напэўна шмат каму з чытачоў вышэй пададзеныя суадносіны насельніцтва ў Беларусі — зразумела, прыблізныя суадносіны — будуць вялікай неспадзеўкай, як яны й былі для аўтара гэтых радкоў. Усё-ж факт застаецца фактам — і перасьцярогай для тых, хто схільны ігнараваць ці хоць-бы недаацэньваць важнасьць і вайстрыню работніцкага пытаньня ў будучай беларускай дзяржаве.

Але да тэмы. Трэба ўважаць, што з мамэнтам здабыцьця незалежнасьці суадносіны розных групаў насельніцтва зьменяцца на карысьць сялян. Папершае, шмат нашых суродзічаў-сялян, вывезеных бальшавікамі, зажадаюць вярнуцца на Бацькаўшчыну; падругое, на зямлю — сваю собскую — напэўна захочуць вярнуцца й шматлікія выхадцы вёскі, якія апошнім часам яе пакінулі, уцякаючы ад калгаснага прыгону й галечы. Для паўніні вобразу можа варта дадаць і нашу эміграцыю.

Як-бы там ні было, у вольнай Беларусі, на нашу думку, прамысловыя работнікі й інтэлігенцыя будуць складаць да 40% насельніцтва. Калі — дзеля прасьціні падліку, прыняўшы, што падобныя суадносіны як насельніцтва, так і зямлі будуць існаваць на ўсёй этнаграфічнай Беларусі — дапусьцім, што ў сучасныя межы БССР вернецца каля 1 мільёна Беларусаў з чужыны, дык на 9 мільёнаў насельніцтва будзе каля 5,5 мільёнаў сялян, на якіх будзе прыпадаць каля 8 мільёнаў гэктараў ворнае зямлі й 3,5 мільёнаў гэктараў сенажаці. З гэтага вынікае, што на сярэднюю сялянскую сям'ю — чатыры асобы — прыпадае **ворнай** зямлі каля... 6,5 гэктара! Як бачым, ня так ужо й шмат. Да гэтага, праўда, даходзіць на сям'ю каля 2,5 гэктара сенажацяў, ня ўлічваючы лесу й іншых угодзьдзяў. Узяўшы ўсё разам, сялянская гаспадарка ня будзе ў сярэднім складаць больш за 10—12 гэктараў. Праўда, можна ўзяць на ўвагу, што пазьней плошча ворнай зямлі пабольшыцца яшчэ за кошт цяпер няпрыгодных земляў, але гэта справа й заданьне будучыні.

Зямельны надзел мусіць, зразумела, залежаць ад якасьці зямлі, якую давядзецца падзяліць найменш на 3 галоўныя катэгорыі. Аднак, як мы ўжо казалі, максімум і мінімум надзелу павінны быць загадзя вызначаныя. Улічыўшы ўсе вышэй пералічаныя дзейнікі, прыватная сялянская гаспадарка ня можа, на нашу думку, перавышаць 20 гэктараў, і быць меншай за 5 гэктараў. Прынцып непадзельнасьці павінен быць уведзены абавязкава; калі й дапусьціць — пры эвэнтуальнай неабходнасьці, дыктаванай абставінамі — пэўныя мадуляцыі гэтага прынцыпу, дык прынамся непадзельнасьць **мінімуму** мусіць быць загарантаваная законам. Патрэбы такое гарантыі даводзіць хіба ня трэба, калі ня хочам дапусьціць да няслаўнае памяці церазпалосіцы — калішняе спадчыны аграрнага гаспадараньня акупантаў.

Паўстае пытаньне: ці наяўная плошча ворнае зямлі здолее забясьпечыць нашаму сялянству дабрабыт, ці дазволіць яму выявіць прыватную ініцыятыву? Прыклад іншых краінаў даводзіць, што так. Ня будзе самахвальствам сказаць, што наш селянін умее ў бальшыні выпадкаў даць сабе рады куды лепш за сваіх калегаў па прафэсіі іншых нацыянальнасьцяў. Натуральных здольнасьцяў яму не адмаўляе ніхто, а бяда была добрым, хоць і надта срогім настаўнікам. Свая-ж дзяржава будзе служыць яму ня толькі практычнымі парадамі, але й патрэбнай дапамогай, як гэта ёсьць у кажнай вольнай, цывілізаванай краіне.

Адным зь першых відаў такое дапамогі павінна быць заснаваньне сельскагаспадарскіх школаў, раўнамерна разьмешчаных па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Гэтае пытаньне закрануў ужо ў сваім артыкуле сп. Клімовіч, і на нашу думку, ягоная прапанова ў прынцыпе правільная. Засьцярогу выклікае толькі вялічыня надзелу для такіх школаў із дасьледчай гаспадаркай — для воласьці, прыкладам, 200 гэктараў можа й зашмат. У кажным выцадку, на некалькі валасных сельскагаспадарскіх школаў павінна прыпадаць адна сярэдняя.

Важнасьць дасьледчых гаспадарак вялізарная. Яны будуць забясьпечаны кадрамі, якія ня толькі будуць падрыхтоўваць, за ўсім даступную аплату, паўнавартасных, асьвечаных гаспадароў, але й дапамагаць сялянам у сваім радыюсе найбольш рацыянальна эксплаатаваць зямлю. На такой дасьледчай гаспадарцы будуць робіцца досьледы прадуктыўнасьці розных культураў на розных землях і пры розных угнаеньнях; на ёй будуць жывёльныя, птушыныя фэрмы, з рознымі відамі й гатункамі жывёлы й птушкі. Акрамя таго, фаховыя кадры дасьледчае гаспадаркі будуць дакладна вывучаць розныя глебы сялянскіх гаспадарак у іхным радыюсе ды даваць адпаведныя парады кажнаму гаспадару што да ўгнаеньня, найбольш падходных культураў і г. д. У нашы часы аўтаркічная — самавыстарчальная сялянская гаспадарка больш сябе не апраўдвае. Пры адпаведнай глебе, больш інтэнсыўная апрацоўка зямлі дасьць больш прыбытку, скажам, зь пяцёх гэктараў пад лёнам ці цукровымі буракамі, чымся з 20 гэктараў цэлага шэрагу «самавыстарчальных» культураў. У гэтым кірунку трэба будзе ўсьведамляць селяніна, якому спачатку будзе мо й ня лёгка згадзіцца з тым, што яму часам выгадней купляць муку ці хлеб, чымся прадукаваць яго самому.

За базу для дасьледчых гаспадарак і сельскагаспадарскіх школаў можна будзе ўзяць існуючыя саўгасы. Гэта разьвяжа напачатку шмат праблемаў, як сельскагаспадарскія прылады, будынкі й г. д. Не азначае гэта, што дасьледчыя гаспадаркі маюць займаць такую плошчу, якую займаюць цяпер саўгасы. Плошча іх напэўна будзе меншая (у дадзены мамэнт пад саўгасамі знаходзіцца 300 000 гэктараў **ворнае** зямлі), а рэшта будзе разьмеркаваная паміж працаўнікамі былых саўгасаў ці былымі калгасьнікамі.

Застаецца праблема **собскасьці** дасьледчых гаспадарак: каму яны маюць належаць — дзяржаве? воласьці? Кажная з разьвязак мае свае як добрыя, так і благія бакі. Вялікі ўплыў на разьвязку будзе мець адміністрацыйная сыстэма нашай дзяржавы. Пакінем гэтае пытаньне збоку, зазначыўшы, што яно вартае глыбейшае распрацоўкі.

Некалькі словаў да пытаньня калгаснага інвэнтара, а ў першую чаргу — буйнейшых сельскагаспадарскіх машынаў. Падзяліць гэтыя машыны немагчыма. Можна, праўда, дапусьціць калектыўную собскасьць некалькіх гаспадароў, але гэта праблемы не разьвязвае, калі, прыкладам ,у буйным калгасе ёсьць два вялікія камбайны, адна лёнаапрацоўчая машына, адна бульбавыбіралка й г. д. Ці ня лепш у такім выпадку заахвоціць сялян стварыць каапэратыўныя таварыствы, якія-б атрымалі ўвесь гэты інвэнтар ды за малую аплату абслугоўвалі паасобных удзельнікаў каапэратывы? За вырučаныя грошы (акрамя выдаткаў на рамонт) каапэратыва магла-б купляць новыя патрэбныя машыны ці даваць пазыкі паасобным сялянам на куплю сваіх собскіх. Зямельных ці сельскагаспадарскіх банкаў гэтыя каапэратывы замяніць мо й ня могуць, але яны будуць вельмі карыснымі із шмат якіх гледзішчаў.

Пытаньне аграрнае рэформы ў незалежнай Беларусі павінна намі разглядацца,

Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# Гэраізм і «гэраізм»

(Заканчэньне з 2-ай бачыны)

няволі. Бяда толькі ў тым, — і гэта вельмі няпрыемна, — што Раман Сабаленка й да яго падобныя, як'я выраслі на жывільнай вадзе гэтае крыніцы, забруджваюць яе, карабацячы рысу маладосьці генэральнай лініяй КПСС.

Нам вельмі хацелася-б, каб Раман Сабаленка, або хто-небудзь іншы зь беларускіх пісьменьнікаў расказалі Беларусам аб лёсе асобных гэрояў Другой сусьветнай вайны, напрыклад, аб лёсе Зіны Тусналобавай з гораду Полацку. Пра яе сказана вельмі-ж мала ды й то ня пісьменьнікамі, а капітанам савецкай арміі, вайсковым журналістым Грыцаном у ягоным лісьце ў рэдакцыю газэты «Советская Белоруссия» (14 верасьня 1957 году). Зіна — бяз ног і бяз рук, Зіна — вялікі гэрой... Вось што піша яна згаданаму намі капітану: «... **Вашай просьбы выканаць не магу... Патрэбныя фотаздымкі ёсьць у Менску, у Музэі Айчыннай Вайны. А калі шчыра сказаць, дык мне вельмі надакучылі падобныя лісты. Хацелася-б забыцца пра мінулае. У 86-ці газэтах напісана аб маім гэраічным учынку. А што гэта дало мне? Прышоў час ужо падумаць і аб маіх патрэбах. На адказы я трачу шмат грошай, а пэнсія ў мяне вельмі маленькая... Але нікому і ў галаву ня прыходзіць пацікавіцца, як я жыву. А я-ж да апошняга часу выплачваю пазыку, узятую на пабудову дому, страха маёй кватэры працякае. Я ня маю ніякага транспарту... Летам я знаходжуся на дварэ і бачу адно неба, а зімой мяне акружаюць чатыры сьцяны. Прабачце, што я вам так шчыра напісала. Вы чалавек вайсковы і зразумееце мяне»** (падкрэсьленьне наша — У. Д.).

Хіба-ж ня варта было-б пацікавіцца жыцьцём Зіны Тусналобавай, пацікавіцца, зразумець і напісаць пра гэраічную палачанку — ахвяру бальшавіцкай дыктатуры. Яна-ж двойчы гэрой: гэрой вайны і гэрой перамаганьня пакутнага жыцьця бяз рук і ног. Выкарысталі і выкінулі...

Так, гэраізм — гэта рыса маладосьці, але на гэраізм трэба глядзець не з крамлёўскага муру й не вачыма Дзяржынскага, а зь беларускіх нацыянальных пазыцыяў, вачыма свайго народу вачыма гэрояў пакуты — вачыма ахвяраў дыктатуры.

**У. Дудзіцкі**

Каламутнымі хвалямі дні...
Ой, чаму-ж і надзеі і веры
Пагасіў у душы я агні?..

—(✻)—

### САНЭТ

Замерзла ўночы шпаркая крыніца;
Твая пара, зімовая нуда!
Цяпер няма ўжо руху ні сьляда,
І навет зьверху сьнег пластом лажыцца.

Ды ўсё дармо, бо там, пад ім, бруіцца
Магутная, жывучая вада.
Чакай! Яе йшчэ прыйдзе чарада!
Здалее хваляў хор на вольны сьвет прабіцца.

Прыклаў я гэты сымбаль да сябе,
Схіліўшыся ў надсільнай барацьбе,
І разгадаў прыроды роднай словы.

Як, — прамаўчу, бо кажны з вас — паэт.
Расьсейце-ж самі лёгкі зьмрок прамовы,
Свае душы туды пральлецце сьвет!

—(✻)—

### З цыклю „Усьмешкі“

I.

ПАН І МУЖЫК

Дзякуй, пане, бо пазнаў ад вас і я, —
Не на трох кітох трымаецца зямля.
Згода, згода, бо здаецца неяк мне,
Што стаіць яна на нашай-жа сьпіне.

II.

«НА МАЛАДУЮ БЕЛАРУСЬ»

Чытаю я журнал сучасны:
Кіпіць у ім прагрэсу ход!
Ён у пісьменнасьці у краснай
Назад пайшоў на сотню год...
П[аўлові]ч сантымэнталізмам
Там нас уздумаў частаваць,
А пан К[упал]а рамантызмам
Сымбалістычным дзіваваць.
Прывет ім! Хай налягуць двое,
І можа вернецца пара,
Калі чыталі «Громобоя»,
«Пастушки грусть» et cetera.

III.

* * *

Чаму у нас акамянеласьці
«Духоўнай страваю» завуць?
Іх ужываць — ня стане сьмеласьці!
Ў музэум іх няхай нясуць!

IV.

ГУТАРКА

(На «Сон на кургане» Я. Купалы)

«Ат, ня дурэце галавы!»
«Ды праўду-ж драма ёсьць такая,
Ў каторай прыстаў станавы
Лірычным вершам прамаўляе».

* * *

Ўчора шчасьце толькі глянула нясьмела, —
І разьвеяліся хмары змрочных дум.
Сэрца чулае і млела, і балела,
Радасьць у душы шчымела, быццам сум.

Ўсё жыцьцё цяпер, як лёгкая завея.
Кнігу разгарнуў — а не магу чытаць.
Як зрабілася, што пакахаў цябе я —
Хіба знаю я? Ды і нашто мне знаць?

* * *

Ты ночкаю каляднай варажыла
І ў воду воск напоўправідны ліла,
Цікуючы, што выходзіла мне:
Курганчык... белы крыжык... так, магіла!
У гэты год я буду ўжо ў труне.

І броўкі хмурачы, із дна узяла
Ты белы воск, яго сьціскала, мяла
І сьмяючыся кажаш: «Дзе твой кон?
Дык чым-бы моц яго нас ні спаткала —
Ў маіх руках, як воск, падасца ён».

—(✻)—

### КАСЬЦЁЛ СЬВ. ГАННЫ

Каб загаіць на сэрцы раны,
Забыцца долі горкі глум,
Прыдзеце да касьцёлу Ганны!
Там зьнікнуць сьцені цяжкіх дум.
Як лёгка дагары, як красна
Узносіць вежы ён свае!
Іх вырыс стройны ў небе ясна
Заломам строгім устае.
А гастрыні іх так высока,
Так тонка ў вышу неба тнуць,
Што міг адзін — і бачыць вока —
Яны між сіні ўвыш плывуць.
Як-бы расстаўшыся зь зямлёю,
Каб у нябёсах затануць,
Сьвятыня лёгкаю ступою
Ў блакіце пракладае пуць.
Глядзіш — і ціхнуць сэрца раны,
Далёка долі горкі глум.
Прыдзеце да касьцёлу Ганны!
Там нікнуць сьцені цяжкіх дум.

(Далей будзе)

# Прыстасаванцы

**(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)**

сабой прамова Хрушчова, калі яна так натхняе нашых прыстасаванцаў?

Гаворачы агульна пра савецкую рэчаіснасьць, на пачатку свае прамовы Хрушчоў стараецца быць рэалістым-практыкам, што дбае аб дабрабыце народу, даходзячы ў некаторых выпадках проста да адмаўленьня славутых марксістоўскіх «просталінейных» законаў разьвіцьця грамадзтва, называючы камуністых людзьмі «сьмелай фантазіі», якія здольныя зьліцца з жыцьцём народу, пазнаць задачы, якія выстаўляе самое жыцьцё й якія вынікаюць з патрэбнасьцяў грамадзтва. Аднак у далейшым ён спатыкаецца на супярэчнасьцях, сьціроўваючы іх у вадзінае рэчышча — апраўданьне партыйнага самавольства й савецкай беззаконнасьці, апраўданьне быўшых сталінскіх нормаў жыцьця. Гэтак, зьвяртаючыся да пісьменьнікаў і мастакоў, ён з аднаго боку заклікае іх зьлівацца з жыцьцём народу, ісьці сьледам за тым, што высоўвае гэтае жыцьцё, перасьцерагаючы з другога, што пісьменьнік ці мастак ня ёсьць самавыстарчальнай адзінкай, здольнай самастойна думаць і ўзважваць факты, тым больш крытыкаваць заганы савецкай рэчаіснасьці. Важнейшы прынцып, якім пісьменьнік ці мастак павінен кіравацца ў сваёй творчасьці — гэта непарыўная сувязь з палітыкай партыі, бо партыя — адзіны кіраўнік, адзіны правадыр, бо партыя — увасабленьне чалавечае мудрасьці й генія. Дастойны пахвалы той пісьменьнік ці мастак, які трымаецца гэтага прынцыпу, апяваючы геній партыі, размалёўваючы савецкую рэчаіснасьць у яркіх хварбах, ствараючы вобраз жыцьцярадаснага савецкага чалавека.

Адгэтуль прызнаньне Хрушчова, што стакі пры Сталіну, што гонар тым, хто вельмі добра рабілі пісьменьнікі й маатрымаў сталінскую прэмію — партыя іх заўсёды падтрымае, але ганьба тым, хто пры Сталіну маўчаў, а цяпер вылазіць на верх з патрабаваньнямі нейкае там «свабоды творства», з «пагардлівай» мянуцкай «сталінцаў», скіраванай на ачарненьне першых. Адгэтуль заклік Хрушчова вярнуцца й трымацца ранейшых пастановаў аб характары савецкага мастацтва, вярнуцца на ніву крыклівых афішаў і одаў.

Аказваецца сьмешным, але Хрушчоў характарызуе «адарванымі ад жыцьця» тых пісьменьнікаў і мастакоў, якія здолелі адхіліць запазычаны партыйны розум і пайсьці шляхам рэальнага насьвятленьня савецкае рэчаіснасьці. Паводля яго, той пісьменьнік крочыць з жыцьцём і народом, які бачыць гэтае жыцьцё праз прызму партыйнага валюнтарызму. Адгэтуль і хрушчоўская славутая формула пра паняцьце партыйнасьці й народнасьці літаратуры й мастацтва: «.. нельга супрацьстаўляць паняцьці партыйнасьці й народнасьці» — павучае Хрушчоў. Чаму гэта так? А таму, што палітыка камуністычнай партыі, акая выражае карэнныя інтарэсы народу, складае жыцьцёвую аснову савецкага грамадзтва й дзяржаўнага ладу. Таму было-б вялікай памылкай думаць, што ў савецкіх умовах можна служыць народу, не прыймаючы актыўнага ўдзелу ў ажыцьцяўленьні палітыкі партыі. Немагчыма жадаць ісьці разам з народам, не падзяляючы паглядаў партыі, яе палітычнай лініі. Хто хоча быць з народам, той заўсёды будзе з партыяй.

Нічога сабе жаданьні Хрушчова: партыя — гэта народ, народ — гэта бязьдзейная маса, згуртаваньне пакорлівай працоўнай сілы, а пісьменьнікі й мастакі — іхнае адлюстраваньне. Ці гэта не затоенае жаданьне Хрушчова бачыць у савецкім грамадзтве агромны электрычны робат, кіраваньне якім ён мог-бы ажыцьцяўляць пры дапамозе аднае й адзінае кнопкі? Вось чаму ён абурана патрасае кулаком, папераджаючы, што савецкі друк ня можа даставляць свае бачыны для апублікаваньня твораў тых пісьменьнікаў, якія не пагаджаюцца з думкай Хрушчова, лічачы сябе ўсё-такі вольнай адзінкай, якой называецца гэты чалавек.

Закранаючы пытаньне «сталінізму», асуджанага ў свой час самым Хрушчовым, цяпер гэты самы Хрушчоў з усіх чатырох заграбае пасьледкі свайго «абдуманага» паступку. Ён выкручваецца: партыя рашуча асудзіла й пасьлядоўна выпраўляе памылкі, дапушчаныя ў пэрыяд культу асобы, але адначасна яна таксама рашуча выступае супраць тых. хто прабуе выкарыстаць гэтыя памылкі мінулага для выступленьня супраць кіраўніцтва літаратурай і мастацтвам з боку партыі. Сталін дапусьціў памылкі ў вадмаўленьні дэмакратычнасьці ў калектыўным кіраўніцтве, але ён быў непахісным волатам-змагаром за праводжаньне асноўнае лініі палітыкі партыі, за пабудову сацыялізму, у барацьбе з «ворагамі» рознае масьці гэтага сацыялізму.

Адным словам нязьлічоныя ахвяры чырвонага тэрору апраўданыя, апраўданы й Сталін. Вось толькі гэты Сталін любіў папісацца дыктатарствам на партыйным алімпе, а таму «прыхільнікаў ягоных мэтадаў», «антыпартыйную групу Молатава, Маленкова, Кагановіча й Шэпілава», гэтых «сталінскіх падхалімаў» згодна собскага хрушчоўскага абазначэньня, Хрушчоў, шануючы прынцыпы калектыўнасьці, з волі таго-ж самага пакрыўджанага Сталінам народу пусьціў на «вольнае» пасяленьне. Наагул-жа, шануючы ўсьцяж прынцыпы «нутрана-партыйнай дэмакратыі», ён пастараўся таксама вычыркнуць з савецкага лексыкону й свой улюблены тэрмін — «калектыўнае кіраўніцтва». Пашто абцяжваць «пралетарскую» мову?!

Паміж якімі сказамі хрушчоўскага пасланьня знайшлі нашыя прыстасаванцы, такім чынам, новую плынь, якая характарызавала-б гэтае пасланьне «важнейшым партыйным дакумантам па пытаньнях далейшага разьвіцьця савецкай літаратуры й мастацтва»? Магчыма ім спадабалася хрушчоўскае нацкоўваньне літаратараў нацыянальных рэспублік, і ў першую чаргу літаратараў БССР і УССР, на літаратараў «старэйшага» брата, і асабліва на літаратараў Масквы? Хай яны будуць упэўненымі, што партыя і бязь іхнай дапамогі прытушыць запал «самочинников», ды дасьць гэтым апошнім права дыктаваць прынцыпы «савецкага патрыятызму» ў літаратуры й мастацтве, пакінуўшы «нацыяналаў» і надалей «песьнярамі» правінцыі й на правінцыі. А хрушчоўскай прамовай няма чаго захапляцца — яна свабодна можа падмяніць любую прамову ў мінулым Сталіна, любую прамову Молатава ці Кагановіча...

**П. Залужны**

## Да аграрнае рэформы

**(Заканьчэньне з 3-яй бач.)**

улічваючы ня толькі нашы пажаданьні, але ў першую чаргу канкрэтныя фактары, на некаторыя зь якіх мы паказалі ў гэтым артыкуле. Аднак пры ўсіх цяжкасьцях і абмежаваньнях мы маем усе падставы быць пэўнымі, што вольная беларуская дзяржава — і толькі вольная — здолее запэўніць нашаму селяніну запраўдны дабрабыт і свабоду. Тады беларускі селянін будзе галоўнай астояй свабоды нашага народу; тады ня будзе патрабаваць ён і ніякіх, надаваных дзяржавай, тытулаў, як гэта робяць цяпер у нас бальшавіцкія акупанты, ды якія прапануе чамусьці пакінуць з пэўнымі зьменамі сп. Клімовіч. Для селяніна, як і для кажнага чалавека, няма лепшае ўзнагароды, як свабода і дабрабыт; няма лепшае ўзнагароды, як пацеха з пладоў свае собскае працы.

**Ул. Неманові́ч**

# Імрэ Надзь аб камунізьме

У вапошнія гады было надрукавана шмат кнігаў, напісаных былымі камуністымі, у якіх яны расказвалі аб прычынах свайго расчараваньня ў камуністычным руху, падаючы пры гэтым цэлы шэраг даволі трагічных прыкладаў, якія змусілі іх зрабіць гэты крок. Імрэ Надзь, аднак, ніколі не адракаўся ад сваіх камуністычных паглядаў. У кастрычніку 1956 году, калі пачалася рэвалюцыя, Надзь стаўся прэм'ерам Вугоршчыны. Ён быў прэм'ерам яшчэ і раней — зь ліпеня 1953 году да 1955 году, калі ён быў зьняты з гэтага становішча клікай Гэрэ-Ракошы, якія не пагаджаліся зь ягонай палітыкай. У канцы 1955 і ў пачатку 1956 гадоў, бароньячы займаныя ім пазыцыі, Надзь напісаў мэмарандум. Адна з копіяў гэтага мэмарандуму трапіла на Захад і была нядаўна апублікавана адной з выдавецкіх фірмаў Нью-Ёрку ў форме кнігі, названай «Імрэ Надзь аб камунізьме».

Мэмарандум Надзя мае асаблівае значэньне хоць-бы ўжо таму, што ў ім падаюцца прыклады перадумоваў, якія прывялі да пачатку леташняй рэвалюцыі. Складаючы свой мэмарандум, Надзь меў галоўнай мэтай пераканаць партыю ў тым, што марксізм не зьяўляецца мёртвай тэорыяй, што ён павінен ісьці наперад, разьвівацца, ісьці ўпоруч з хуткімі тэмпамі разьвіцьця эканомікі, а таксама грамадзкіх, палітычных і культурных узаемадачыненьняў паміж людзьмі. Будучы прэм'ерам, Надзь меў поўную магчымасьць пазнаёміцца з нутраным жыцьцём партыі, поўным інтрыгаў і жорсткага змаганьня.

Кніга Надзя зьяўляецца таксама ўнікальнай яшчэ з аднаго гледзішча. Ніколі раней, ніводзін з такіх знаных камуністых (або былых камуністых) краінаў усходняй Эўропы не гаварыў так адкрыта аб тым контролі, які мела Масква над камуністычнымі партыямі. Шчырасьць, зь якой Надзь напісаў гэты мэмарандум, можа быць вытлумачана перш за ўсё тым, што пры напісаньні Надзь зусім не разлічваў на тое, што мэмарандум будзе апублікаваны на Захадзе асобнай кнігай. Надзь разьлічваў толькі на тое, што мэмарандум будзе прачытаны толькі сябрамі ЦК Вугорскай кампартыі. Надзь піша, што ён пастанавіў зрабіць свой мэмарандум здабыткам шырокіх масаў пасьля таго, як партыйнае кіраўніцтва на чале з Ракошы і Гэрэ забараніла распаўсюджаньне мэмарандуму сярод звычайных сяброў партыі.

Вось некалькі прыкладаў злачынстваў, адказнасьць за якія былы прэм'ер Вугоршчыны ўскладае на сталінскае кіраўніцтва Ракошы: «ілжа і паклёп», «злоўжываньне ўладаю», «рэпрэсіі супраць шырокіх працоўных масаў», «гульня на мамэньце матарыяльнай залежнасьці ад дзяржавы прафэсійных партыйцаў», «абман звычайных сяброў партыі», «неабгрунтаваныя абвінавачаньні і арышты» і, нарэшце, «устанаўленьне АВХ (тайнай паліцыі) над грамадзтвам і партыяй і ператварэньне АБХ у галоўны ворган улады».

Пасьля пералічэньня ўсіх гэтых злачынстваў, Надзь прыходзіць да наступнага высьнаву (трэба мець на ўвазе, што Надзь напісаў гэта за год да пачатку кастрычніцкага паўстаньня 1956 году).

«Праводжаная кіраўніцтвам Ракошы нялюдзкая палітыка прывяла да ўсталяваньня атмасфэры няпэўнасьці і сумлеваў ува ўсіх пластох грамадзтва. Кажны, калі-б ён прайшоў па краіне з адкрытымі вачыма й вушамі, мог-бы асабіста пераканацца ў тым палітычным хуліганстве, якое прыводзіць усё насельніцтва да адчаю і выклікае разнагалосьсі сярод працоўных масаў. Што-ж зьяўляецца прычынаю гэтага ўсеагульнага незадаваленьня?

«Войстрая супярэчнасьць паміж словамі і справамі, паміж праклямаванымі прынцыпамі й выкананьнем іх на практыцы — усё гэта падрывала асновы нашай народнай дэмакратыі, нашага грамадзтва й нашай партыі. Народ усё больш і больш пачынае разумець і адчуваць гэтую супярэчнасьць, што, бязумоўна, вядзе да страты даверу з боку масаў, якія спадзяюцца на лепшае, больш шчасьлівае й мірнае жыцьцё. Працоўныя ня ў стане прымірыцца з такім станам рэчаў і ня могуць зразумець, чаму на іх ускладаецца ўсё большы й большы цяжар у той час, як яны дасягаюць значных посьпехаў у галіне эканомікі, палітыкі, культуры і ўзаемадачыненьняў сярод грамадзтва.»

Супярэчнасьці паміж словамі й справамі, а таксама панаваньне ў краіне рэжыму тэрору — гэтакай былі існаваўшыя ў Вугоршчыне нутрыпалітычныя абставіны, якія прывялі да пачатку леташняга кастрычніцкага паўстаньня.

Імрэ Надзь, аднак падкрэсьлівае ў сваім мэмарандуме той факт, што зародкі ўсенароднага паўстаньня можна было бачыць яшчэ ў 1953 годзе. У чэрвені гэтага году, згодна з атрыманымі з Масквы наказамі Ракошы адмовіўся ад становішча прэм'ера. Ягонае месца заняў Імрэ Надзь...

Надзь выразна заяўляе, што зьмены ў складзе вугорскага ўраду адбываліся ў суадпаведнасьці з загадамі, якія прысылаліся кіраўніцтвам КПСС.

Такім чынам, паводле Надзя, яшчэ ў 1953 годзе кіраўнікі савецкага ўраду вельмі добра ведалі аб злачынствах, зробленых на загад і зь ведама Ракошы. Аднак савецкае партыйнае кіраўніцтва бараніла і падтрымлівала Ракошы і тым самым памагло стварыць тыя перадумовы, якія прывялі да кастрычніцкага паўстаньня ў Вугоршчыне у 1956 годзе.

# Закон і... „прыйдзіце заўтра“

27-га жніўня ўся беларуская прэса апублікавала праект Закону **«Аб узмацненьні барацьбы з антыграмадзкімі, паразітнымі элемэнтамі»,** пададзены Камісіяй заканадаўчых меркаваньняў Вярхоўнага Савету Беларускай ССР на гэтак званае ўсенароднае абмеркаваньне.

Як і усё савецкае прапагандовае пустаслоўе, гэты «дакумэнт» пачынаецца шумнымі сказамі. Цытуем даслоўна:

«У выніку перамогі вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, ліквідацыі капіталістычнай сыстэмы і ўсталяваньня сацыялістычнага ладу ў нашай краіне назаўсёды зьнішчана эксплятацыя чалавека чалавекам, ліквідавана сацыяльная аснова для паразітнага існаваньня адных за кошт другіх. У савецкай краіне ўпяршыню ў гісторыі пакончана зь беспрацоўем і галечай...»

Гэтак гаворыцца ў уступнай частцы праекту закону «Аб узмацненьні барацьбы з антыграмадзкімі, паразітнымі элемэнтамі» ў савецкай Беларусі.

Як бачым, што ні слова — вялікая ілжа.

Але вернемся да праекту закону. Вось-жа, наўсуперак бальшавіцкай прапагандзе, гэты праект закону зьяўляецца найлепшым доказам, што ў Савецкім Саюзе людзі ня хочуць працаваць. А чаму? — зусім зразумела: ня хочуць працаваць на паразітную партыю і ейную ня менш паразітную антынародную сыстэму. Тут-жа выкрываецца ілжа і таго цьверджаньня, што ў Савецкім Саюзе «назаўсёды зьнішчана экспяатацыя...» Эксплятацыя ня зьнішчана, бо ўсё грамадзтва эксплятуецца савецкай дзяржавай. А гэта беспараўнаньня горш, бо лягчэй змагацца з эксплятататарам-чалавекам, чымся з эксплятататарам-дзяржавай.

А вось яшчэ адзін характэрны сказ уступнага пустаслоўя з праекту закону «Аб узмацненьні барацьбы з антыграмадзкімі, паразітнымі элемэнтамі»:

«Абсалютная большасьць савецкіх грамадзян з натхненьнем працуе на прамысловых прадпрыемствах, у калгасах, МТС, установах або выконвае грамадзкакарысную работу ў сям'і.»

«Абсалютная большасьць...» — сказана аж зашмат. З гэтага бачым, што ёсьць і абсалютная **меншасьць,** якая злосна ўхіляецца ад працы. Але гэтая «меншасьць» зьяўляецца, як бачым, такой небясьпечнай, што Вярхоўны Савет БССР змушаны выдаваць закон, які прадбачвае «барацьбу з антыграмадзкімі, паразітнымі элемэнтамі», гэта значыць прыцягненьне да адказнасьці тых, хто ня хоча працаваць.

Пяць артыкулаў гэтага закону бязьлітасна заціраюць усю саракагадовую балбатню бальшавіцкай прапаганды аб гэтак званым шчасьці, дабрабыце, уздыме падсавецкіх людзей і савецкай рэчаіснасьці.

У артыкуле чацьвертым праекту закону гаворыцца, «што дарослыя грамадзяне, якія займаюцца бадзяжніцтвам або жабраваньнем, падлягаюць па прыгавору народнага суду ссылцы на тэрмін ад 2-х да 5-ці год з абавязковым прыцягненьнем да працоўнай дзейнасьці на месцу ссылкі».

Вытрымкі да гэтага артыкулу мы ўзялі з газэты «Чырвоная Зьмена» за 27-га жніўня. І вось цікавае супрацьстаўленьне. На другой бачыне гэтай-жа самай газэты, дзе гаворыцца аб тым, што бальшавіцкая ўлада раз і назаўсёды зьліквідавала беспрацоўе, зьмешчаны «ліст у рэдакцыю» пад загалоўкам: **«Адказ адзін: «Прыйдзіце заўтра».** У гэтым лісьце група менскіх дзяўчат, якія скончылі дзесяцігодку, скардзяцца, што яны хацелі-б працаваць, але месяцамі шукаюць працы, бадзяючыся, і ніяк ня могуць яе знайсьці. Вось дакладныя словы зь іхнага лісту:

«...Хадзілі мы доўга. Іншы раз у вадзелах кадраў нам гаварылі: „Прыйдзіце заўтра". На наступны дзень зноў такі-ж бюракратычны адказ. А пабывалі мы на камбінаце імя Фрунзэ, мота-велазаводзе, радыёзаводзе, аўтазаводзе... Нам гавораць: „Работы няма. Зайдзіце ў канцы верасьня"».

Цікава тое, што нават рэдактар «Чырвонай Зьмены» не заўважыў, што ў вадным і тым самым нумары газэты, на аднэй і тэй самай бачыне зьмясьціў два супрацьлежныя, супярэчлівыя матар'ялы.

Вельмі-ж цікавым зьяўляецца і тое, як будучы закон «Аб узмацненьні барацьбы з антыграмадзкімі, паразітнымі элемэнтамі» аднясецца да дзяўчат, якія месяцамі бадзяюцца па Менску, шукаючы працы? Ці іх палічаць «за валацужніц» і «паразітак» ды вышлюць туды, дзе Макар цялят не пасе, як гэта прадбачваецца ў праекце закону, дзе яны будуць мець ня толькі загарантаванае сталінскай канстытуцыяй «права на працу», але і прымус працы, ці ім прабачаць тое, што яны месяцамі валочацца па Менску, шукаючы працы?

Сапраўды дзіўнымі шляхамі-дарогамі валацужнічаюць бальшавіцкае права, лёгіка, праўда, ну і — рэч зразумелая — прапаганда!...

Сапраўды парадоксы савецкай рэчаіснасьці...

**пс**

### АСЬВЕТЧАНЬНЕ ГАЛОЎНАЙ УПРАВЫ З.Б.К. У ТАРОНТА

**Гэтым падаем да ведама сяброў З.Б.К. і ўсёй беларускай грамадзкасьці, што вестка пад загалоўкам «Ліквідацыя Беларускага Дому ў Таронта і ЗБК», трапіўшая на старонкі Нр. 369—370 «Бацькаўшчыны», не адпавядае праўдзе.**

**Згодна Статуту ЗБК аб маёмасьці арганізацыі дэцыдуе толькі Зьезд дэлегатаў і сяброў ЗБК, прычым за пастанову мусяць галасаваць 2/3 сяброў ЗБК. Такога Зьезду, аднак, ЗБК у гэтым годзе ня склікала і пастановаў адносна перадачы Дому ЗБК для Парахвіі Сьв. Кірылы Тураўскага яшчэ ня было.**

**Таронта, дня 16-га верасьня 1957 году**

**Сакратарыят Галоўнай Управы З.Б.К.**

# „На прастор душа мая ўцякае“

Перад намі — літаратурна-мастацкі й грамадзка-палітычны часапіс «Беларусь» № 7. Вышаў ён у вапошніх днях ліпеня — тады, калі пачынаўся Фэстываль моладзі й студэнтаў у Маскве.

Зьвяртаюць на сябе ўвагу вершы маладога беларускага паэты Пятруся Макаля, надрукаваныя на 6-ай бачынцы часапісу «Беларусь». Чытаючы ягоныя вершы, міжвольна вырываецца радаснае перакананьне: жорсткая партыйная крытыка Дудзінцава, Граніна, Нагібіна, Сіманава, Гарбунова, Еўтушэнка ды іншых не забіла свабоды думкі ў творчасьці савецкіх паэтаў і пісьменьнікаў і штучна створанай радасьцяй не зацямніла жыцьцёвага рэалізму.

Цыкль вершаў Пятруся Макаля падмацоўвае нашае перакананьне.

У вершы «Дом творчасьці» Макаль піша:

«Дом — ня дом. Палац шматпавярховы  
Схованы ў густой лясной цішы.  
Сонечны пакой і стол дубовы.  
Аўтаручку у пальцы — ды пішы.  
Ды пішы... А толькі што напішаш,  
Ад людзей аддзелены сьцяной?  
Навет вецер тут і той ня дыша —  
Задыхнуўся ў цеснаце лясной...»

Далей паэт Макаль гаворыць:

«На прастор душа мая ўцякае —  
Не магу я тут пражыць і дня...»

Высnaў такі: партыя запірае пісьменьнікаў у дом партыйных дырэктыў, аддзяляе іх сьценамі ад людзей і замыкае ў кола хвальшывага сацыялістычнага рэалізму, адкуль душа ўцякае на прастор, бо ня можа ў доме дырэктыў «пражыць і дня».

А вось першыя радкі з другога характэрнага вершу:

«Здараецца так»:

«Я толькі прачнуўся і з дому выйшаў.  
Сьвежасьць. А радасьці ў сэрцы няма».

Радкі гавораць самі за сябе: радасьць забіта ў сэрцы падсавецкага чалавека, але не забіта імкненьне да радасьці й свабоды ў сэрцы падсавецкага чалавека. І гэтае імкненьне, не зважаючы на партыйныя дырэктывы, штодня выступае ўсё з большай і большай сілай у творах асобных савецкіх пісьменьнікаў, якія хочуць быць разам з сваімі народамі. Вершы Пятруся Макаля, — радасная зьява з гледзішча свабоды думкі ў мастацкай творчасьці беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў.

**У. Д.**

## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**  
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd, London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**  
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**  
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St. Croydon, N. S. W.  
**Mr. A. Moroz,** 109 Morrison Rd, Midland Junction, Western Australia.  
**Mr. M. Palashuk,** 14 Steel St., Spotswood-Melbourne, Vic.

**БРАЗЫЛІЯ:**  
**C. Cimafiejcyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**  
**Mr. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinois.  
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.  
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave. Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**  
**Mrs. N. Akula,** 57 Riverdale Ave. Toronto, Ont.

**НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ:**  
**Mr. Marian Karanieuski,** 88 Hercules Drayve, Roxburg — Hydro.

**ФРАНЦЫЯ:**  
**Mr. V. Mickievič,** 47, Bd de Bezons Sartrouville (S. et O.).  
**Mr. M. W. Kastelan,** 2, Rue Galvani Roubaix (Nord).

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**